Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

8 - 14 жніўня 1997 года

# Рэгіянальная газета

ЦАНА 2000 РУБ. ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

№32 (120)

Ці праўда, што ўсе ірландцы рыжыя?

2-я старонка

**Прыдумайце хваробе гучную назву**

## Калі сто грам ~~не~~ зашкодзіць...

*МАЛАДЗЕЧНА. Апошнім часам пачасціліся выпадкі расстройства свядомасці пасля ўжывання нават невялікай дозы гарэлкі (цяпер удакладняецца, якой іменна). Людзі, якія ніколі не былі ў залежнасці ад алкаголю, дэзарыентуюцца, трызняць, хвалююцца, што іх заб'юць.*

Пасля ўвядзення медпрэпаратаў прыходзяць у прытомнасць і цікавяцца, што з імі было. Можа, у хуткім часе гэтай хваробе прыдумаюць гучную назву. А пакуль у картці хворых упісваюць: "каротка-тэрміновы псіхапатычны стан". Заўчора ў дыспансер транспартная міліцыя прывезла рабочага ільнозавода К. Увагу міліцыянераў прыцягнулі яго дзіўныя паводзіны: рабочы кланяўся ўсім прахожым. З урачом быў ветлівы. Інакш, як Аляксандрам Фёдаравічам (так завуць дырэктара завода), яго не называў. Медыкі ўвялі вакцыну. Па словах "пацярпелага", выпіў з сябрам па 100 грамаў, не болей. Прычынай такіх паводзінаў спецыялісты схільныя лічыць ужыванне няякаснай гарэлкі.

20-30-гадовыя часцей скардзяцца на полінеўрыт (алкагольны). Нямеюць, баляць рукі, ногі. Толькі за 6 месяцаў на Маладзечаншчыне зарэгістраваны 51 выпадак алкагольнага псіхозу.

*Аддзел інфармацыі.*

**Адным абзацам**

За апошні час у кіраўніка дзяржавы заўважана жаданне паруліць - у Абчаку ён праехаўся на толькі што сабраным "Фордзе", а пры наведванні Гомельшчыны забраўся аж да кабіны камбайна.

Не адбылося ўвядзення новага парадку ўвозу на мытную тэрыторыю краіны рэчаў грамадзян, што прызначалася на 4 жніўня. Абвешчана новая мяркуемая дата ўступлення яго ў сілу - 18 жніўня. Ніякай афіцыйнай інфармацыі пра магчымыя змяненні, як заўсёды, няма. Курсіруюць чуткі пра дазвол правозу так званых асабістых рэчаў на суму не больш за 100 долараў і плаце пошліны ў памеры 6 долараў за кожны кілаграм вагі багажу. Увядзенне падобных драконаўскіх мер прывядзе толькі да павышэння і так не малых цэнаў на шырспажыў, што ўвозяць "чаўнакі".

З увядзеннем у дзеянне з 1 жніўня Часовых правілаў па гандлі прадукцыяй, што ўтрымлівае элементы эротыкі, дзяржава ў асобе Міністэрства гандлю прызнала яе (эротыкі) існаванне на Беларусі. Згодна з гэтымі правіламі, у масавых перыядычных выданнях колькасць матэрыялаў з эратычнымі кампанентамі (фотаздымкамі, малюнкамі, артыкуламі, аб'явамі, рэкламай) не павінна перавышаць 5% ад агульнага аб'ёму публікацый. Да таго ж, матэрыялы дапускаюцца толькі інфармацыйнага, выкрывальнага і сатырычнага характару.

Маладзечанскі гарвыканком прыняў рашэнне аб узвядзеннні ў горадзе тэнісных кортаў. Размесцяцца яны недалёка ад гарадскога стадыёна. У адрозненне ад традыцыйных даўгабудаў, мяркуецца, што ў канцы верасня новы спартыўны аб'ект будзе здадзены ў эксплуатацыю.

У Вілейцы прайшоў семінар-практыкум работнікаў паркаў культуры і адпачынку сталічнай вобласці. Адміністрацыя мясцовага парку, якому сёлета споўнілася 20 год, змагла за апошні час набыць новыя атракцыёны для дзіцячай пляцоўкі, абсталявала більярдную з гульнявымі аўтаматамі, правяла некалькі масавых святаў.

Міністр культуры А. Сасноўскі выказаў удзячнасць старшыні Маладзечанскага райвыканкома Пятру Куляшу за яркае, запамінальнае свята купалаўскай паэзіі.

У Радашковічах з'явілася новая паліклініка. Разлічана яна на 150 наведванняў у змену, а размясцілася ў будынку былога дзіцячага садка ААТ "Белмастацкераміка". У рэканструкцыі дзіцячай установы акрамя "Белмастацкерамікі" ўзялі ўдзел цагельны завод, санаторый "Сасновы бор", іншыя прадпрыемствы.

**Анонс**

### Містэр прыгажосць

*СМАРГОНЬ. Аддзел моладзі райвыканкома рыхтуе турысцкі злёт, які адбудзецца 9-10 жніўня на першым рэспубліканскім турысцка-спартыўным палігоне ля Жодзішак.*

Ад каманд прымаюцца заяўкі. Акрамя традыцыйных этапаў удзельнікаў чакае гумарыстычная паласа перашкод: дамбайскі бокс, футбол у звязцы, конкурс мужчынскай моды і прыгажосці.

*Аддзел інфармацыі.*

**Навіны**

### Пра зубатых і насатых

*СМАРГОНЬ. Мясцовыя меліяратары захавалі паселішча баброў. Пакінулі зубатым 3 гектары зямлі, зрабілі, каб падыходзіла да іх вада.*

Магчыма, хутка на "радзіму" прыляцяць і буслы. Насатых напалохаў шум трактароў. Гэта ў калгасе "Светлы шлях" прадпрыемства меліяратыўных сістэм асушвала і добраўпарадкоўвала 147 гектараў зямлі.

*Тарэса КУМІШЧА.*

### Добрая парада

*АСТРАВЕЦ. Скаўтаў з Маладзечна, Вілейкі, Віцебшчыны, Мядзельшчыны, Мінска падчас правядзення паходу спыніла мясцовая міліцыя.*

Акрамя турысцкага рыштунку, падлеткі неслі бела-чырвоныя сцягі і не мелі дазволу знаходзіцца ў пагранзоне. Кіраўнік паходу Бярнард Пакульніцкі патлумачыў мэту падарожжа, паказаў спіс дзяцей. Пасля гэтага скаўтам далі тры гадзіны, каб пакінуць Астравец. Прычым па-добрым параілі за гэты час дэманстрацый не праводзіць.

*Аддзел інфармацыі.*

### Грошы ў паветры

*МЯДЗЕЛ. Свірскі ўчастак электрычных сетак праводзіць замену ліній электраперадач.*

У вёсцы Канціненты за 5 дзён замененыя правады, драўляныя слупы на бетонныя на адлегласці ў 1,2 кіламетра. Брыгадзе майстра Юрыя Марчанкі не пазайздросціш - яна абслугоўвае 354 кіламетры. Прычым кожны крок каштуе немалых грошай: 1 метр провада - 21 тыс. рублёў, 1 бетонны слуп - 1,2 мільёна.

*Тарэса КУМІШЧА.*

### Ёсць дзе машыны ставіць

*АСТРАВЕЦ. Мясцовыя гандляры перайшлі на новыя рабочыя плошчы, а стары рынак перааб-сталёўваецца пад стаянку для машын. Лішняй яна не будзе, бо ўладальнікаў аўто ўсё большае, а стаянак няма.*

Будоўляй займаюцца рабочыя са спажыўтаварыства. Цяпер яны агароджваюць тэрыторыю, выконваюць іншыя работы. Стаянка будзе платнай і з кругласутачнай аховай. Чакаецца, што аб'ект увойдзе ў строй у жніўні.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

### Дарадчы орган

*МАЛАДЗЕЧНА. Другі тыдзень у горадзе дзейнічае новы орган - савет кіраўнікоў прадпрыемстваў, арганізацый, установ.*

Новае стварэнне заклікана стаць пастаянным дарадчым органам кіравання сацыяльна-эканамічным развіццём Маладзечна. Абраны прэзідыум з сямі чалавек, куды ўвайшоў старшыня гарвыканкома С. Татарыновіч, кіраўнікі гарадскіх прадпрыемстваў - незалежна ад формы ўласнасці і ведамаснай прыналежнасці.

Раней у горадзе існаваў савет дырэктараў. Назва, як відаць, крыху змянілася, а вось функцыі да болю нагадваюць дзейнасць Савета народных дэпутатаў.

*Аддзел інфармацыі.*

**ACHTUNG!**

**Карэспандэнты "маладзёжкі", хопіць адпачываць! Праз месяц мусіць выйсці ваш чарговы нумар. Прыходзьце атрымліваць журналісцкія заданні. Для ўсіх, хто хоча ўзяць удзел у падрыхтоўцы маладзёжнага выпуску "РГ", збор у панядзелак (11 жніўня) а 14-й гадзіне.**



## Мыемся!



МАЛАДЗЕЧНА. Карэнныя жыхары горада з'яўляюцца на свет у Вілейцы. Маладзечанскі радзільны дом закрыты на планавую "мыйку". Магчыма, да 18 жніўня. А пакуль мыюць раддом (на здымку), маладзечанскія парадзіхі ў Вілейцы грэюць для сябе гарачую ваду ў вёдрах. Іншага выйсця няма - Вілейка каторы год (акрамя зімаў) не ведае, што такое гарачая вада ў кранах.

*Фота Вячаслава ТАМАШЭВІЧА.*

## Нашы за мяжой

# Навошта ірландцам дзеці з Беларусі



Дуэт у пабе з вядомым у Ірландыі музыкантам Джымам Бэйнбрыджам.

*МАЛАДЗЕЧНА. Вучні мясцовай СШ N6 становяцца пастаяннымі гасцямі ірландскіх сем'яў, школ. Сёння на пытанні карэспандэнта "РГ" адказвае ўдзельнік апошняй паездкі Дзіма АПАЛЕНІС.*

**- Давай пачнем з таго, што ты раскажаш, як атрымаў права на паездку ў Ірландыю.**

- Праходзіў тэсты. І на валоданне англійскай мовай, і на творчасць натуры. Невядома, які фактар больш паўплываў на рашэнне камісіі.

**- І якое адрозненне паміж Беларуссю і Ірландыяй ты заўважыў найперш!**

- Яшчэ ў аэрапорце здзівіла ідэальная чысціня і тое, што ўсе людзі глядзяць на цябе з прыветлівай усмешкай.

**- Ці з'яўляюцца адметнымі рысамі ірландцаў міласэрнасць, гасціннасць! Чаму яны прымаюць дзяцей з Беларусі!**

- Можа, і з'яўляюцца, але ў большасці выпадкаў гэта асабістая выгада. Сям'я, якая прымае беларуса, атрымлівае немалую суму на ўтрыманне дзіцяці і, акрамя таго, пазбягае значнага падатку на зямлю. Так што ў праекце ўдзельнічаюць і багатыя, і бедныя сем'і. Адна дзяўчына жыла ў сям'і паліцэйскага, я - у буйнога землеўладальніка.

**- А ці ведаюць увогуле ірландцы пра Беларусь!**

- Яны лічаць Беларусь нейкай часткай Расіі. Але добра ведаюць Чарнобыль. Праўда, па іх меркаваннях, там немагчыма жыць, бо ўсё ў жоўтым дыме і нічога не відаць. Таму нярэдка ўзнікала жаданне расказаць пра Беларусь, пра тое, якія годныя людзі жывуць у ёй. Пасля Ірландыі з'явілася імкненне даказаць свету, што ёсць такая краіна - Беларусь, а нацыя беларусаў нічым не горшая за іншыя.

**- А ці адрозніваецца прырода Ірландыі ад нашай!**

- Вядома. Але яна адметная сваёй прыгажосцю. Мне запомніўся вельмі прыгожы куток - сад каля дома, дзе я жыў. Пальмы, экзатычныя дрэвы і расліны, штучны вадаспад і акіян (віла стаіць на беразе Атлантычнага акіяна).

**- А як наконт людзей! Ці праўда, што ўсе ірландцы рыжыя!**

- Не, вядома.

**- Раскажы пра сваю тамтэйшую школу.**

- Яна знаходзілася няблізка, прыходзілася штодня дабірацца на машыне, а потым яшчэ на школьным аўтобусе. Школа невялікая, дзяржаўная, а значыць, і далёка не лепшая. Няма зацікаўленасці ні з боку вучняў, ні з боку настаўнікаў. Існуе выбар дысцыплін. Але для нашых аднагодкаў-ірландцаў мы былі геніямі, настолькі нашы веды перавышаюць іхні ўзровень. Выснова была адна: крытыкуючы нашу сістэму адукацыі, мы проста не ведаем, што яна намнога лепшая за іншыя.

**- Як яны выкарыстоўваюць свой вольны час!**

- Шмат часу дарослыя адводзяць працы. Любяць падарожжы. Падлеткі падзарабляюць таксама. Аддаюць перавагу "пабам".

**- Як наконт музыкі і кніг!**

- Вядома, чытаюць. У маёй прыёмнай сям'і была багатая бібліятэка. Сярод кніг былі і творы рускіх пісьменнікаў-класікаў Чэхава, Талстога, і кнігі суперновых і супермодных аўтараў, пра якіх я нават і не чуў. Калі казаць пра музыку, то яе яны любяць і слухаюць. Але музыка падпарадкоўваецца модзе, якая заўсёды зменлівая, і канкрэтнага накірунку нельга вызначыць.

**- Як складваліся адносіны паміж табой і ірландцамі!**

- Моўнага бар'еру я не адчуваў, за што дзякую СШ №6. А чалавечыя адносіны... Ірландцы атрымалі не зусім тое, што чакалі. Яны лічылі, што прыедуць гаротныя дзеткі-небаракі, якіх трэба будзе пашкадаваць, а ўбачылі людзей, вартых іх саміх, і не ведалі, як трымацца з намі.

**- Дадому хацелася! Настальгія!**

- Не тое, што так, і не тое, што не. Два месяцы не такі вялікі тэрмін. Я падтрымліваў сувязь з роднымі, сябрамі. І мне было вельмі цікава ў Ірландыі.

**- Пра паездку ў Германію раскажаш!**

- Калі распытаеш, з задавальненнем.

**- Але будзем лічыць гэта тэмай новай гутаркі. Усяго добрага табе, цікавых уражанняў.**

*Яна КАВАЛЕВІЧ.*

## Крымінал, здарэнні

# Тэхніка бяспекі пры крадзяжах

*МАЛАДЗЕЧНА. Дваццацішасцігадовы страхар смяротна траўміраваны падчас рамонтных работ у райбальніцы.*

Трубка руберойду звалілася з даху чатырохпавярховага будынка. Па заключэнні судмедэкспертызы, "вонкавая страта крыві ў выніку шматаскольчатага адкрытага пералому костак чэрапа". Працей кажучы, галава сплюшчылася і праз рану выйшла ўся кроў. У ахвяры не было нават трупных плямаў. Ёсць падазрэнне, што рабочыя вырашылі напярэдадні выхадных "загнаць" некалькі трубак руберойду і скідвалі іх уніз.

*Аддзел інфармацыі.*

# З галавою не сябруе

*Не ў такія ўжо далёкія 80-я гады хлопец трапіў за турэмныя краты - згвалтаванне. Адседзеў свой тэрмін, а нядаўна зноў узяўся за старое.*

У адной з вёсак ён спрабаваў здзейсніць антымаральныя ўчынкі ў адносінах да шасцігадовай дзяўчынкі. Перашкодзілі зламысніку родзічы дзіцяці, якія і выклікалі міліцыю.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# Абаранкі з макам любяць усе

*ВАЛОЖЫН. Вёску Малое Запруддзе Гародзькаўскага сельсавета ведаюць за межамі краіны. Яшчэ вясной расіяне са Смаленшчыны ў мясцовых куплялі мак за "зайцы" або мянялі на тавары народнага ўжытку.*

Цяпер у ходзе рэйду супрацоўнікі крымінальнага вышуку былі яшчэ больш уражаныя - амаль на кожным падвор'і сяляне вырошчваюць як опіумны, так і алейны мак. Прычым, больш як па 10 сотак адпусцілі пад гэтую расліну.

56 адміністрацыйных пратаколаў за вырошчванне маку - вынік рэйду толькі ў Гародзькаўскі сельсавет.

*Юрый ЗАЛЕСКІ, намеснік начальніка аддзялення крымінальнага вышуку РАУС.*

## Вядома ж, у лазні лепей

# Прапалі ты мне лазню, Валерачка

*РАКАЎ. Прыватны прадпрымальнік Валерый Плугатыроў арандуе калгасную лазню. Сеанс у гэтым кавалачку цывілізацыі каштуе 15 тысяч рублёў. Тым не менш, да 400 чалавек штотыдзень наведваюць установу за 2 мыйныя дні.*




Вядома ж, у лазні лепей!

Валерыю 38. Авіядыспетчар па спецыяльнасці, пяты год, як асеў разам з жонкай-сібірачкай у Ракаве. Гандляваць ці разводзіць свіней не пажадаў. Прадпрымальнік перамотвае электрарухавікі, а цяпер вось і мые аднавяскоўцаў.

Чатыры апошнія гады лазня не працавала і ператварылася ў сметнік: зламаныя вокны, дзверы, столь. Нешта з драўлянай абліцоўкі знялі, частка згніла. 80 мільёнаў спатрэбілася Плугатырову на аднаўленне і рамонт. Поўнасцю змяніў сістэмы воданагрэву, халоднага забеспячэння, інтэр'ер. Банк грошай не даў. Прыйшлося па людзях "жабраваць". Старшыня калгаса "Ракаўскі" Віктар Буцень дапамог з матэрыялам, адтэрмінаваў выплату арэнды. Лазня, разлічаная на 25 мыйных месцаў, запрацавала.

У хуткім часе для наведвальнікаў адчыніцца пакой адпачынку: музыка, гарбата, мінеральная вада. Тут жа прададуць ручнік, венік, мыла. Гарэлкай гандляваць не будуць, ды і сочаць, каб у лазні не ўжывалі. Валерый - хрысціянін веры Евангельскай.

- Чалавек загніў да такой ступені, - гаворыць ён, - што спачатку яго трэба добра адмыць. А ўжо духоўныя пытанні хай вырашае царква.

Летам у Ракаве насельніцтва павялічваецца да 5 тысяч. У пятніцу і суботу з ручнікамі ды венікамі спяшаюцца "да Валерыя". Сам гаспадар трымае марку - дух у парыльні заўсёды на ўзроўні.

*Васіль САВІЦКІ.*

## Журналіст мяняе прафесію

# Не плачце, мацяркі. У войску не так усё і дрэнна

### спатрэбілася 3 гадзіны, каб яшчэ раз пабыць салдатам і ў гэтым пераканацца

*МАЛАДЗЕЧНА. Намеснік камандзіра палка Анатоль АСМАНАЎ загадаў выдаць мне новую форму з шэўронам - Узброеныя Сілы РБ, боты. Даў магчымасць уліцца ў калектыў навабранцаў (два тыдні, як прызваліся) і пазнаёміцца, як з роўнымі.*




Сотня салдатаў прыйшла ў вайсковую часць. З улікам тэрытарыяльнага прынцыпу набору, усе яны землякі - з Маладзечна, Смаргоні, Мядзела... З чыстымі медкніжкамі. Але два тыдні - і 14 байцоў трапілі ў "чорны" спіс да ўрачоў: зрок, дыстрафія... Радавы К. пры фізічнай нагрузцы скардзіцца на сэрца. У радавога П. выяўлены хранічны гастрыт. Па медыцынскіх паказчыках з мінулага прызыву камісавалі 7 чалавек.

Ёсць салдат ростам 190 см, а вагой 60 кг. Безумоўна, за службу набярэ 7-10 кг. Тым не менш, як з такой вагой выконваць баявыя задачы? Паесці - справа найпершая, святая. Так лічыць **Дзяніс Сямёнаў**, выпускнік Маладзечанскага ПТВ-87. **Дзмітрыю Апановічу**, выпускніку музвучылішча, даспадобы не толькі зямныя радасці. Службу ўспрымае як урачысты момант жыцця. Але не ўсе такія патрыёты. 20-30 працэнтаў маральна не падрыхтаваныя служыць.

- Яны мужыкі,- гаворыць кампалка **Аляксандр Грыгор'еў**, - і павінны быць падрыхтаваныя, каб хоць увайсці ў мужчынскі калектыў.

Сяргей М. з Валожына стаяў днявальным на тумбачцы і плакаў. Нехта з салдат патэлефанаваў, абразіў.

- Як дзеці, - характарызуе камандзір роты навабранцаў (жыве моладзь асобна), - многія з хлопцаў на грамадзянцы не працавалі. Прачыналіся, калі хацелі. Няма ў іх сур'ёзнасці.

Мінчанін Аляксандр Класкоўскі на трэці дзень службы пераскочыў цераз плот і паехаў на "стрэлку" да дзяўчыны. Бацькі-журналісты доўга прасілі прабачэння за ўчынак сына.

У радавога Захватава з Маладзечна думкі іншыя. За плотам засталіся бацька, брат-інвалід. Як яны там?

Нягледзячы на тое, што кожны салдат (не "залётчык") штомесяц два дні жыве дома, сярод родных, бацькоў, у выхадныя на КПП - натоўп. З многімі афіцэры часці наладзілі перапіску.

"Піша вам **маці радавога Андрэя Валахоўскага**. Прабачце, што не падрыхтавалі сына да такой сітуацыі. У нас у думках не было, што ў арміі салдаты могуць піць гарэлку", - дзеліцца Вольга Валахоўская.

У лістах выказваецца і падзяка, і занепакоенасць: "Для нас самае галоўнае пытанне - нестатутныя ўзаемаадносіны. Бо нашы дзеці такія розныя." (**Тамара Матусевіч** з Мінска).

Бацькоў збіраюць як мага часцей. Тлумачаць, якой спецыяльнасцю авалодвае сын, што есць, колькі спіць. Камандаванне часці імкнецца ведаць сваіх салдатаў. Каб дапамагчы ім не толькі ў баявой і фізічнай, але і ў далейшым грамадзянскім жыцці.

Калі зняў боты і ператварыўся ў цывільнага чалавека, мае новыя сябры тварам спахмурнелі і на пытанні адказвалі стрымана, па-салдацку: "Никак нет", "Так точно".

*Салдатам быў Васіль САВІЦКІ.*
*Калаж Алега ГУЛЕЦКАГА.*

